Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 25 гр.

№ 7 (9) Вільня, 25 Кастрычніка 1934 г. Год II

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Социялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16—2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях" выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр. Цана абвестак паводле ўмовы.

## АКТУАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ

**Пра патрэбу тварэньня Б. Н. С. П.**

Да сёньняшняга дня толькі дзьве палітычныя партыі дзеюць сярод Беларускага народу і змагаюцца паміж сабою за ўплывы — маем на ўвазе Бел. Хрысьціянскую дэмакратыю і камуністычную партыю З. Беларусі, як зусім арганізаваныя сілы з выразным палітычным і грамадзкім абліччам.

Гісторыя нашай грамадзкасьці ўлажылася ў такі спосаб, што іншыя кірункі беларускай палітычнай думкі ня ўзмоцніліся настолькі, каб прыняць некую трывалую арганізацыйную форму.

Гэтакае, не натаванае сярод іншых народаў зьявішча, тлумачыцца рознымі прычынамі.

Галаўнейшая з іх палягае на тым, што дзеючая на нашых землях камуністычная партыя вельмі зацікаўлена, каб у нас не пашыраліся палітычна-грамадзкія цячэньні, якія-б сваёю ідэолёгіяю і вынікаючаю з яе праграмаю не пацягнулі за сабою шырэйшых колаў грамадзянства.

Больш ад усяго камуністы баяцца тых палітычных групіровак, каторыя маюць на мэце рэканструкцыю грамадзянства на социялістычных падставах і дзеля таго наймацней бьюць у гэты найбольш небясьпечны для сябе бок.

Гэтакая іхняя тактыка для нас зусім зразумела.

Рэчова скрытыкаваць камуністычны лад і падарваць да яго давер можа ня тая група, якая знаходзіць у ім адны недарэчнасьці, а тая, каторая, акрамя гэтага, можа даць яшчэ зусім выразную і зразумелую конструкцыйна-социялістычную праграму.

У барацьбе з монархістычна-абшарніцкімі і буржуазнымі партыямі камуністы могуць аграніччыцца іроніяю і жартамі-і гэтага будзе даволі, бо сялянскія масы і наагул усіх працоўных можна лічыць „застрахаванымі" ад іхніх уплываў.

Гэтым толькі і можна вытлумачыць на першы пагляд даволі дзіўны факт, што камуністы заўсёды бьюць наймацней па тых, хто стаіць у абароне працоўных.

Не выпадковаю зьяўляецца тая акалічнасьць, што Беларуская Сел.-Работніцкая Грамада, інсьпіраваная Камінтэрнам, паўстала якраз тады, калі надаралася магчымасьць запачаткаваць на нашых землях моцны нацыянал-социялістычны рух.

Людзі, якім залежала на грамадзкім сдэмаралізаваньні нашага народу выбралі мэтад стварэньня больш „радыкальных" арганізацыяў, як мэтад разбіцьця ўсіх праўды народных і сялянскіх партыяў, меўшых між іншым, уцягнуць працоўныя масы ў арганізацыйна-творчую працу.

Беларускі народ змушаны быў прайсьці грамадаўска-змаганскую школу, каб лішні раз пераканацца — як цяжка пры нашых умовах жыцьця апынуцца на здаровым ідэолёгічным грунце...

Пераканаўся ён і ў тым, што гэтакія радыкальныя „партыі" ніколі ня мелі намеру ператварыцца ў самастой-

ныя палітычныя партыі з выразна сфармуліраванаю і тэорэтычна ўгрунтаванаю ідэолёгіяю, а былі звычайным парамостам для перацягваньня нашага народу пад камуністычныя ўплывы.

Падобнага роду „хітрая мэханіка“ камуністаў даволі доўгі час была незразумелаю для нашага грамадзянства, але затое цяпер яна ўжо не выклікае ніякага сумліву.

Для ўсіх стала ясным, што той, хто ня хоча падпасьці пад дыктатуру пролетарыяту і ягонага „авангарду“ — павінен выразна адмяжавацца ад камуністаў і не шукаць іхняга протэктарату пры будаўніцтве хацяж-бы і самых радыкальных беларускіх арганізацыяў.

Застаецца цяпер затрымацца на Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. Гэтая партыя найбольш ад усіх прычынілася да пашырэньня беларускай нацыянальнай сьведамасьці—і ў гэтым яе гістарычная заслуга.

Толькі людзі, каторыя, выконваючы загады варожых для Беларусаў сілаў, вялі з ёю змаганьне і вялі толькі таму, што яна была і ёсьць запраўдным правадніком беларускай нацыянальняў ідэі, патрапіўшым зашчапіць яе ў амаль непрыступным серадовішчы беларусаў-каталікоў.

З гэтага пункту гледжаньня яна зусім „неўязьвіма“ і шмат хто абламаў сабе зубы, жадаючы разбурыць гэтую моцна скансалідаваную партыю.

Б. Х. Д. мае, акрамя ярка выражанай беларускасьці, сваю ўласную ідэалёгію, абапёртую, як паказвае сам яе назоў, на хрысьціянізме і зразумела, што ў серадовішчы людзей, бачачых у навуцы Хрыста адзіны шлях да абнаўленьня і ўдасканаленьня сьвету, — яна адыгрывае вялікую ролю.

Мы лічым, аднак, што перабудова сучаснага сьвету на больш дасканальных падставах ня можа адбыцца выключна шляхам паступаньня згодна з запаведзямі, уложанымі ў Эвангэліі, ня маючай, між іншым, усеагульнага прызнаньня.

Арганізаваныя высілкі грамадзянства, скіраваныя ў бок перабудовы соцполітычнага ладу вельмі часта вымагаюць, на жаль, дапамогі брутальнай сілы і мяча, вымагаюць такіх спосабаў дзеяньня, якія бываюць у супярэчнасьці з эвангэльскімі імпэратывамі.

Вось дзеля гэтага мы ня можам прызнаць як філёзофскае ўгрунтаваньне сваей палітычнай і грамадзкай лініі навуку, якая ў чыстым сваім выглядзе праклямуе несупраціўленьне злу.

Камуністычнаю партыяю і Б. Х. Д. у нас і агранічваецца вонкавае выяўленьне палітычнай думкі.

Мы зусім сьведама скідаем з рахунку розныя г.зв. радыкальныя групы як тыя, каторыя паўстаюць звычайна падчас выбароў у Сойм, так і тыя роля каторых зводзіцца да разбурэньня беларускага грамадзкага жыцьця.

Усе падобнага тыпу групы маюць выключна спэкуляцыйны і сэзановы характар і паўстаюць дзякуючы слабасьці людзкай натуры, падкай да нажывы.

Аднак, як паказвае досьлед над праявамі грамадзкага жыцьця, памыліўся-б той, хто сказаў-бы, што ў нас няма іншых кірункаў палітычнай думкі, акрамя вышэйпададзеных.

За апошнія гады, асабліва пасьля разчараваньня ў камуністычнай ідэолёгіі з яе „соцыялістычнаю“ рэалізацыяю ў Саветах, пасьля трагэдыі Грамады і жорсткіх рэпрэсыяў проціў беларусоў, нац. соцыялістычная ідэолёгія заваёўвае сярод беларускага грамадзянства ўсё большую ўвагу. Для ўсіх зусім відавочна, што сучасная буржуазна-капіталістычная структура грамадзянства збанкрутавала аканчальна.

З другога боку, зрабілася ясным і тое, што і дыктатура пролетарыяту, як гэта бачым на савецкім прыкладзе, ня вытрымлівае крытыкі.

З гэтага, аднак, ня выплывае, што трэба шукаць нешта пасярэдняе, за што хапаюцца сучасныя сацыялісты марксоўскай школы, якія хацелі-б устанавіць дыктатуру пролетарыяту бадай ці не за згодаю буржуазных клясаў.

Нам не падарозе ні з камуністамі, ні з соцыялістамі ўгадоўцамі, ні з існуючымі буржуазнымі партыямі. Наш ідэал — гэта такі палітычны і соцыяльна-эканамічны лад які мы акрэсьліваем як нацыянальна-соцыялістычны, абапёрты на задаваленьні ўсіх патрэбаў Беларускага народу, як прыроднага гаспадара сваёй зямлі, і аткрываючы нам шырокія пэрспэктывы да нацыянальнага, культурнага і гаспадарчага поступу.

Гэтакая думка, якая ўжо знашла зусім выразную фармуліроўку на шпальтах „Новага Шляху“ будзе пашырацца сярод Беларускага народу, у выніку чаго мусіць паўстаць Беларуская Нацыянал.-Соцыялістычная Партыя.

Моцныя і самаахвярныя адзінкі, пераняўшыяся нац.-соцыялістычнаю ідэалёгіяю і стварыўшыя партыйныя кадры, павядуць за сабою народ на барацьбу за лепшую будучыню.

На гэтым павінна палягаць галоўная мэта Нац.-Соц. партыі, дзеяльнасьць каторай абапрэцца на ідэалёгіі нашай часопісі.

Ф. Акінчыц.

# Intelihencyja i narod

U kožnym narmalna arhanizowanym hramadzianstwie intelihencyja, budučy klasaju aświečanaju i ŭmysłowa raźwitaju, staić napieradzie narodu, nadajučy hałoŭny kirunak usim prajawam hramadzkaha žyćcia.

Usio nowaje i lepšaje, što moža być zastasawana i što moža pryniešci narodu maralnyja, hramadzkija, abo jakija inšyja karyści — jana pawinna papularyzawać siarod masaŭ, starajučysia, kab heta nowaje i lepšaje było imi zrazumieła i pryniata.

Intelihencyja pawinna być narodnaju, mieć z narodam pastajannuju sutyčnaść i žyć jahonymi intaresami.

Heta, adnak, nia značyć, što jana musić paturajuča adnosicca da ŭsich adjomnych prajawaŭ charaktaru narodnych masaŭ, abo plaścisia ŭ chwaście hetych apošnich, wykonwajučy ichnija „dyrektywy“.

Być z narodam — heta značyć paznać usie adjomnyja i dadatnija baki jahonaj dušy, zrazumieć narodnuju psychiku i staracca nakirawać jaje na adpawiedny šlach.

Ad zapraŭdnaha intelihenta, jaki moh-by z paśpiecham wykonywać padobnuju rolu, wymahajecca, kab jon ujaŭlaŭ z siabie peŭnuju ideolohičnuju i maralnuju wartaść, i kab mieŭ zusim skrystalizawanyja i ćwiordyja pierakonańni, a pieradusim byŭ česnym i samaachwiarnym u hramadzkim žyćci.

Tolki takaja adzinka adyhrywaje pozytyŭnuju rolu ŭ hramadzianstwie i tolki jana moža mieć upłyŭ na krystalizacyju dušy swajho narodu.

Naš Zach.-Biełaruski hrunt wielmi nadajecca da wytwareńnia padobnaha typu ludziej.

Treba nie zabywać, što my apynulisia ŭ žorstkich abstawinach biazlitasnaj baraćby, dzie prawa na swajo nacyjanalnaje isnawańnie treba brać bojem, dzie ŭsio skirowana na toje, kab źniščyć nas maralna i nawat fizyčna.

Pry hetakich umowach zahartowywajecca duch čaławieka i pawialičwajucca jahonyja maralnyja wartaści. Baraćba, budučy dobraju hramadzkaju školaju, wytwaraje mocnych i idejowych ludziej.

Praŭda, šmat chto hinie bieznadziejna, nia wytrymaŭšy biazlitasnaha žyćcia, pchajučaha nas da nendzy i maralnaha apadleńnia. Ale zatoje, tyja adzinki, u dušy katorych świecić „iskra Božaja“, wychodziać z hetakaj baraćby jašče macniejšymi. Jany nabywajuć takuju siłu, katoraja z liškaj pakrywaje słabieńkija siły ludziej, maralna zhinuŭšych.

My, biełarusy, možam być hordymi z taje chacia-ž by pryčyny, što našaja intelihencyja razam z narodam wysoŭwajuć z pasiarod siabie hetakich nacyjanalnych bajcoŭ u toj samy čas, kali intelihencyja panujučaj, naprykład, nacyi, adarwaŭšysia ad narodu, zapeŭniŭšy sabie materjalny dabrabyt i zamknuŭšysia ŭ sfery swaich čysta ehoistyčnych intaresaŭ, pačynaje ŭ hramadzkim adnošeńni hnusnieć.

Na šlachu da wytwareńnia z našaha sieradowišča mocnych kadraŭ nacyjanalnaha aktywu staić wielmi mnoha roznych pieraškodaŭ, katoryja tworacca worahami biełaruskaha adradžeńnia.

Hałoŭnaje swaje zadańnie jany bačać u tym, kab zabić „klin“ pamiž Biełaruskim narodam i nacyjanalnaju biełaruskaju intelihencyjaju.

Hetym samym jany chočuć pawieści ciomnuju i niaświedamuju častku narodu za saboju i zamacawać nad im swajo panawańnie.

Nad „zawastreńniem“ klinu pracujuć polskija šowinisty, žydy, kamunisty i naahuł usialakija ciomnyja siły, katorym wyhadny hramadzki i nacyjanalny zaniapad taho narodu, siarod katoraha jany žyrujuć.

Ale niama na świecie ničoha wiečnaha...

My wierym, što nastupić čas, kali nawat samyja ciomnyja masy, zdemaralizawanyja i źbityja z tołku ciažkimi abstawinami žyćcia, rašuča i świedama adkinuć fałšywych „prarokaŭ“ i pojdzuć usieju swajeju masaju za tymi ludźmi, katoryja wiaduć ich da nacyjanalnaha i sacyjalnaha wyzwaleńnia.

Značnaja častka našaha narodu ŭžo ciapier pačynaje ražumieć, što tolki biełaruskaja nacyjanalnaja intelihencyja, wyšaŭšaja z nietraŭ Biełaruskaha narodu i wiernaja biełaruskaj sprawie źjaŭlajecca jahonym pryrodnym pawadyrom i što ŭsio čužoje i nie biełaruskaje pawinna być adkiniena raz nazaŭsiody. My dobra wiedajem, što šlach, pa katoramu musić iści kožny nacyjanalna świedamy i česny biełarus, ciarnisty i wielmi ciažki, ale taki ŭžo naš los, što prajšci jaho musim.

Nia bojmasia što nas pakulšto mała. Niapraŭdu kažuć ludzi, byccam adzin u poli nie wajaka.

Naadwarot. I adzin moža zmahacca i pawinien heta rabić, kali abstawiny taho wymahajuć.

Historyja daje nam tysiačy prykładaŭ, jak mocnyja i zachoplenyja swajeju idejaju adzinki wiali za saboju całyja natoŭpy ludziej

i twaryli ŭ hramadzkim žyćci pierawaroty.

Takija adzinki adyhrywali i buduć adyhrywać u žyćci ludzkoj hramady wialikuju rolu.

Tolki treba, kab jany dziejali niaŭpynna, systematyčna i sami byli zachopleny swaimi pierakanańniami, swajeju wieraju ŭ lepšuju budyčyniu, i tady ich nie pieramohuć nijakija warožyja siły jakimi-b mocnymi jany nia byli... U kožnaj baraćbie patrebna dobraja zbroja, a kali čaławiek jaje maje, toj adzin moža zmahacca i być wajakaj. A takoju zbrojaju ŭ hramadzkaj i nacyjanalnaj baraćbie jość našy pierakanańni, świedamaść taho, što robim i wiera ŭ kančalnuju pieramohu.

Ideolohičňa azbrojeny nacyjanalny aktyŭ, złožany z takich adzinak i dziejučy na čale swajho narodu, stworyć cud, u katory nia. chočuć wieryć ludzi maładušnyja i słabyja...

F. A.

---

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА і РАСЕЙЦЫ

Апошні абмен пісьмамі паміж б. сэнатарам В. Багдановічам і б. паслом А. Стэповічам, надрукаванымі ў Новым Шляху, змушае нас выказаць свой пагляд адносна ролі расейцаў у беларускім грамадзкім жыцьці.

Перадусім, мы лічым, што асеўшы на беларускіх землях расейцы зьяўляюцца элемэнтам такім самым прыбылым і чужым для нас, як і сучасныя асаднікі і польскія ўрадоўцы.

Яны спраўаджваліся расейскімі ўрадамі на Беларусь у мэтах яе русыфікацыі і ўстрыманьня ўсякіх праяваў беларускай культуры і нацыянальнай сьведамасьці народу.

Гэта ёсьць фактам, каторага нельга запярэчыць, такім самым фактам, як і тое, што сучасныя прышэльцы, пераважна з Галіцыі, польскія ўрадоўцы і вучыцялі апалячываюць наш народ.

Пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі, апынуўшыся ў межах новапаўстаўшай Польскай дзяржавы, расейцы нейкі час не выяўлялі ніякай палітычнай дзеяльнасьці і сядзелі ціха.

У большасьці выпадкаў яны паатрымлівалі ад польскага ўраду эмэрытуры за сваю царскую службу, або, перайшоўшы на каталіцызм, запісаліся ў палякі і заселі ў польскіх „ужэндах“.

Знайшліся сярод іх і такія, каторыя залічылі сябе да палякаў, не выракаючыся праваслаўнай веры, скуль і ўстанавілася ў Польшчы даволі дзіўная катэгорыя „поляків вызнаня православнэго“

Наагул трэба заўважыць, што нацыянальнае і рэлігійнае рэнэгацтва сярод расейцаў ператварылася ў зьявішча вельмі распаўсюджанае, што, між іншым, дало падставу аднаму расейскаму публіцысту на газэтных шпальтах задаць пытаньне, скіраванае да эміграцыі: „Почему это мы такая большая дрянь?“

За апошнія гады мы зьяўляемся сьведкамі таго, як дзеяльнасьць іх ажывілася і прыняла, з нашага пункту гледжаньня, зусім непажаданы кірунак.

Напрыклад, на ўкраінскіх землях распачалася заўзятая барацьба з нацыянальным рухам украінскага народу, прыняўшая асабліва востры і нават непрызваіты характар на царкоўным фронце.

Што датычыць З. Беларусі, то тут наглядаецца, хаця й ціхая, але зусім выразная акцыя, скіраваная на ўсыпленьне беларускай нацыянальнай сьведамасьці шляхам сыстэматычнай прапаганды, даводзючай, што ніякіх беларусаў няма і што ўсё, залічаючае сябе да беларускага — па сутнасьці зьяўляецца расейскім.

Акцыя гэтая, падтрымліваная праваслаўным духавенствам, вядзецца кіраўнікамі расейскіх арганізацыяў, заклікаючымі сваіх сябраў ісьці на беларускую вёску і распачынаць абрусіцельную працу, прыкрываючы яе культурна - асьветным плашчом.

Зразумелая рэч, што мы, беларусы, раўнадушна міма гэтага яўна процібеларускага руху, маючага, як відаць, нейкую падтрымку, — прайсьці ня можам.

Мы лічым, што беларусы як нацыя павінны вырашыць свае абасобленыя нацыянальныя, культурныя і палітычныя заданьні і дзеля таго расеец і беларус — не адно і тое самае.

Усякія спробы расейцаў, скіраваныя ў бок культурна - нацыянальнага заваяваньня нашага краю, трэба разглядаць, як варожы крок у адносінах да беларускага народу, такі самы па сваёй палітычнай сутнасьці і характару як і полёнізацыя.

Нэгатыўныя нашыя адносіны да гэтай справы мусяць паглыбіцца яшчэ балей, калі мы возьмем пад увагу, што пераважная большасьць праваслаўнага духавенства, выконваючы агульны плян русыфікацыі, да сёньняшняга дня ўпарта і дэмонстрацыйна ня хоча лічыцца з прыродным правам Беларускага народу на сваю родную мову.

Праваслаўнае духавенства, каторае стараецца абаламуціць наш народ сваёю русыфікацыяю, мы ставім нароўні з польскімі ксяндзамі, каторыя калечаць яго, накідаючы сваю „польскосьць“.

Паўстае цяпер пытаньне — на чыю-ж карысьць працуюць расейскія арганізацыі, маючыя ў сваім распараджэньні грашовыя сродкі, цэлыя кадры духавенства, эмігрантаў, былых царскіх урадоўцаў і г. п. элемэнт?

Калі мы бачым, як ксяндзы - палякі папянізуюць наш край, то кожнаму зусім ясна пра што тут разходзіца.

Калі-ж мы зьяўляемся сьведкамі таго, як праваслаўныя духоўнікі шчыра і сумленна абрабляюць свае „авечкі“ ў расейскім напрамку, а расейскія арганізацыі паглыб-

ляюць гэтую працу, то многія могуць падумаць, што запраўды тут творыцца нешта расейскае, маючае на мэце ператварэньне беларускага народу ў маскалёў.

Углedзіўшыся крыху глыбей у гэта ўсё — справа выявіцца зусім у іншым сьвятле. Перадусім, русыфікацыя нашага краю пры сучаснай міжнароднай сытуацыі ня можа мець ніякіх канчальных і самастойных мэтаў.

Нават самі русыфікатары проста перастрашыліся-б, каб ім сказалі, што іхняю мэтаю ёсьць падгатоўка псыхолёгічнага грунту да злучэньня нашых земляў з Маскоўшчынаю, цяпер ці ў будучыні — ня робіць розьніцы. Можна быць пэўным, што аграмадная большасьць расейцаў найменш аб гэтым думае.

Акцыя іхняя галоўным сваім заданьнем мае ўстрыманьне поступу нацыянальнай сьведамасьці беларускага народу, і знаходзіць выразную падтрымку з боку адпаведных „сфэраў“, чым і можна вытлумачыць тую энэргію і той шырокі размах, з якімі яна вядзецца.

Унесьці раскол у серадовішча Беларускага народу, падзяліць яго адпаведна рэлігійнай прыналежнасьці і замаразіць беларускую справу з тым, каб хутчэй потым пайшла палянізацыя нашага краю — вось тыя ўкрытыя мэты, да якіх імкнуцца расейцы на нашых землях.

У будучыні мы прадбачым узмацненьне гэтага руху, які ўжо і цяпер мае аж 2 паслоў расейцаў, прайшоўшых у сойм па сьпіску Б. Б.

Узяўшы ўсё гэта пад увагу, нацыянальна сьведамаму беларусу не выпадае ня толькі падтрымліваць акцыю, якая фактычна працерабляе шлях да палянізацыі нашага краю, але нават браць у ёй нekі пасярэдні ўдзел, памятаючы, што яна ў тым выглядзе, у якім вядзецца цяпер, скіравана проці аснаўных і прыродных правоў Беларускага народу.

А. Полацкі.

# ЧЫМ ГЭТА ВЫТЛУМАЧЫЦЬ

Газэты падалі вельмі цікавую і характэрную вестку. На пачатку верасьня г. г. у Лодзі паліцыя выкрыла камуністычную арганізацыю, кіраўніком каторай аказаўся нейкі Зэндэр Зэльвэр, родны брат фабрыканта шоўкавых панчохаў.

Разам з ім былі арыштаваны сябры гэтай арганізацыі Эстэра Зэйдэнвурм і Краўзэ — таксама дочкі багатых лодзінскіх прамыслоўцаў.

Усе гэтыя асобы ня толькі па свайму клясаваму паходжаньню, выражаючыся бальшавіцкім жаргонам, буржуі, але, што для нас найгалаўнейшае — зьяўляюцца чыстакроўнымі жыдамі.

Гэтакім чынам, мы бачым, што жыдоўскія капіталісты адыгрываюць у Польшчы ролю барацьбітоў за ідэалы камуністычнай рэвалюцыі.

Каб гэтакі факт быў выпадковым зьявішчам — дзівіцца не прышлося-б. Здараецца ў жыцьці, што й багатыя людзі ў імя сваіх пераканаьняў ідуць супроць інтарэсаў сваёй буржуазнай клясы.

Але нас тут затрымлівае адно. Заўважана, што прадстаўнікі ніякай іншай, а толькі жыдоўскай буржуазіі займаюцца камуністычнымі справамі, выконваючы кіруючыя ролі.

Камуністычная партыя З. Беларусі (К. П. З. Б.), як і кам. партыя Польшчы поўнасьцю знаходзяцца ў жыдоўскіх руках, у чым кожны, хто чытае газэтныя справаздачы з судовых працэсаў, можа пераканацца сам.

Пераважная частка сябраў кіраўнічых органаў гэтых партыяў належаць да гандлярскай і прамысловай клясы.

Вось, напрыклад, з каго складаўся Цэнтр. Камітэт К. П. З. Б. у 1930 годзе, арыштаваны ў Вільні. Туды ўваходзіла 11 жыдоўскіх гандляроў і спэкулянтаў: Розэ Лібэрман, Гэня Каплан, Гірш Пенчанскі, Мэндэль Словік, Шлёма Каннэман, Абрам Шуп, Давід Розэншайн, Абрам Розэнбаўм, Віктар Розэнштайн, Гінда Лібэрман і Брандля Лібэрман.

З такіх самых жыдоў складаецца цэнтральны камітэт і іншыя органы гэтай партыі і цяпер, аб чым дасканальна ведаюць людзі, каторыя маюць з ёю сутычнасьць.

Цікаўна, між іншым, яшчэ й тое, што ў шпіёнскіх справах жыды рэдка калі пападаюцца і не было яшчэ выпадку, каб павесілі жыда. На гэтакую „працу“, за каторую пагражае пятля, камуністы высоўваюць цёмныя і здэмаралізованыя адзінкі, пераважна з беларусаў, самі-ж вядуць „ідэёвую“ камуністычную акцыю, пасьля каторай, крыху адпачыўшы ў вастрозе, выязджаюць, як героі і мучанькі ў Саветы.

Тое самае наглядаецца ва ўсім сьвеце, дзе існуюць камуністычныя арганізацыі і аб чым нават буржуазная прэса, кіраваная пераважна жыдамі, дыплёматычна маўчыць.

Застаўляючы ўсё гэта ў адну суцэльнасьць, мімаволі трэба згадзіцца з тым, што ня толькі жыдоўскі пролетарыят, але й жыдоўская буржуазія, дзеючая ў скрыты спосаб, падтрымлівае сусьветны камуністычны рух.

Чым-жа можна вытлумачыць гэтакі здавалася-б, парадаксальны факт?

Усім, чым хочаш, толькі ня тым, што жыды, пераняўшыся камуністычнаю ідэолё-

ХТО ЧЫТАЕ „НОВЫ ШЛЯХ,“ НЕ АПЛАЦІЎШЫ ПАДПІСКІ, ТОЙ ВЫКАРЫСТОЎВУЕ ЧУЖУЮ ПРАЦУ І ВЫЯЎЛЯЕ СВАЮ ГРАМАДЗКУЮ НЯВЫРАБЛЕНАСЬЦЬ

гіяю, хочуць падзяліцца сваім дабром з працоўным народам.

Прычыну гэтага таямнічага зьявішча трэба шукаць у іншай плошчы.

Па нашаму глыбокаму перакананьню, абапёртаму на абсэрвацыі жыдоўскай расы, — гэтая апошняя імкнецца да сусьветнага панаваньня, каторае яна спадзяецца асягнуць шляхам разбурэньня сучаснага грамадзкага ладу з адначасным маральным аслабпеньнем усіх народаў.

Інтэрнацыянальная ідэолёгія і папулярызацыя розных дэмагагічных лёзунгаў сярод цёмных масаў зьяўляецца для гэтых мэтаў найлепшым сродкам. Недарма-ж цэнтр сусьветнай і ўсёразбураючай акцыі — камінтэрн — поўнасьцю апанованы жыдамі.

Што рэвалюцыйнасьць жыдоў мае чыста расавыя падставы — доказам можа служыць яшчэ й Савецкая Расея, дзе яны, зьнішчыўшы пры дапамозе сваіх чрэзвычаек расейскую інтэлігэнцыю і буржуазію, захапілі пакінутыя імі пляцоўкі ў свае рукі. Тое самае сталася з украінцамі, беларусамі, грузінамі і іншымі народамі, страціўшымі сваю інтэлігэнцыю і пасадзіўшымі сабе на шыю жыдоў. Каб гэтакая, сапраўды фатальная акалічнасьць, ня кідалася людзям у вочы, жыды паперменывалі свае прозьвішчы на славянскія.

Гэтакім чынам з Лейбы Бронштэйна зрабіўся Леў Троцкі, з Валаха — „вялікі" дыплёмат з арыстакратычным прозьвішчам — Максім Літвінов, з Нахамкэса — Стеклов з Апфэльбаума — Зіновьев, з Гольдэндаха — Рязанов, з нейкага жыдоўскага аптэкарскага вучня — Ягода, і г. д.

Толькі гэтакімі прычынамі, якія пададзены вышэй, можна вытлумачыць сабе той рэвалюцыйны запал і сымпатыі да камунізму, якім ахоплены ўсе жыды ў суцэльнасьці, не выключаючы і буржуазных клясаў.

С. Б.

---

# Ksiandzy - endeki prafanujuć relihiju

**Prałat Sawicki wiadzie na spowiedzi palityčnuju ahitacyju. Ks. Ziemkiewič zabaraniaje witać ludziej pry pracy sławami „Pamażу Boža"**

Hazeta „Šlach Moładzi" № 9 s. h. padaje sensacyjnyja, aburajučyja kožnaha biełarusa wiestki. U artykule „Kiepska budzie z pastyrami" znachodzim reču, katoryja pawinien zapamiatać kožny biełarus, kab wiedać dzie hadujucca i žyrejuć našyja zajadłyja nacyjanalnyja worahi. Cikaŭnyja wiestki hetaj časopisi i słušnaje jaje abureńnie padajom dasłoŭna:

„1-ha wieraśnia sioleta a hadz. 5—6 wiečaram dwoch maładych biełarusaŭ katalikoŭ pašli ŭ kaścioł św. Jana ŭ Wilni da spowiedzi i trapili da ksiandza prałata Sawickaha. Woś-ža, kali pieršy z ich staŭ spawiadacca pabiełarusku, dyk spawiadnik zachawańniem swaim zmusiŭ biełarusa spawiadacca papolsku, kali-ž druhi padyšoŭ i taksama pačaŭ spawiadacca pabiełarusku, dyk tady spawiadnik užo farmalna škipieŭ sa złości i zamiest taho, kab spawiadać, pačaŭ łaić biełarusaŭ, nazywajučy ich kamunistami, biazbožnikami, paskudztwam, brydziačy biełaruskuju literaturu i h. d. Hety da hłybini abražajučy fakt pierachodzić usie hranicy ciarpliwaści! Bo trudna sapraŭdy nawat u dumkach sabie dapuścić, što wytwarajecca. I chto-ž sapraŭdy źjaŭlajecca ŭ nas bolšym ahitataram biazbožnaści: ci taki ksiondz-prałat, ci kamunisty! Što za prafanacyja spowiedzi i światyni! Dy što sapraŭdy za trahedyju pieražywaje naš narod, jaki, utrymliwajučy takoha ksiandza padatkami, čuje ad jaho nawat na spowiedzi biespadstaŭnuju chamskuju łajanku!

A dziejecca heta ŭsio ŭ „kulturnaj" Wilni, u XX stahodździ, tut-ža pad bokam arcybiskupa Jałbžykoŭskaha, jaki tak-ža pamiatuje ab tym tolki zdajecca, kab utrymać u nas pa kaściołach polščynu, dy jak najdalej trymać biełaruskich ksiandzoŭ ad biełaruskaha narodu. A kiepska što arcybiskup nie zahlanie bližej u narodnuju dušu i adpawiedna nie zareahuje na niechryścijanskija pastupki paduładnych sabie „pastyraŭ". Bo chutka dojdzie zdajecca da taho, što my ŭsie biełarusy budziem reahawać na pastupki swaich „pastyraŭ" tak, jak zareahaŭ adzin naš supracoŭnik na abrazu prawasłaŭnym świaščeńnikam biełaruskaha narodu, reckajučy swaje ruki kala jaho „небогообразного олицетворенiян.

U hetym samym artykule „Шлях Моладзі" padaje nia mieniej aburajučaje „dziejańnie" druhoha razendečanaha da niaprytomnaści „słuhi Božaha",

„U Šyławickaj parafii, Waŭkawyskaha pawietu, miascowy probaršč, polski nacyjanalist, ks. Ziemkiewič, nia tolki ŭsialakim sposabam ahituje za polščynu, ale zabaraniŭ z ambony sialanam biełarusam witać adzin druhoha pry pracy pabiełarusku sławami: „Pamažy Boža" a nakazaŭ hatą rabić papolsku: „Boże

dopomóž!“ Roźnicy, jasna, u źmieście hetych słoŭ niama nijakaj, ale za toje ŭ pryšłaści, kali ŭwiadziecca „Boże dopomóž“ u žyćcio, taki ksiondz budzie hawaryć, što hetyja ludzi palaki i što heta ziamla, na jakoj jany žywuć — polskaja bo tut zwyčai polskija.“

Niejki Katolik u polskim sanacyjnym „Kurjery Wilenskim“ z dnia 3.X.34 h. pišučy pra hetuju sprawu hetaki robić wywad: „Razumiejem dziejučujusia kryŭdu. Razumiejem patrebu reahawańnia na jaje. Ale ci ŭ padobnych wypadkach najułaściŭšym arhumantam jość kułak — wielmi sumlawajemsia. Kali inšych sposabaŭ biełaruskaja moładź nia moža znajści — dyk sumnaje jana sabie wystaŭlaje świadoctwa.

Woś-ža my pierakonany, što pan Katolik z „Kurjera“ mocna mylajecca, wystaŭlajučy hetkaje świadoctwa biełaruskaj moładzi za toje, što jana pahražaje fizyčna reahawać za abrazu swajho narodu i jahonych cennaściaŭ.

Jakraz naadwarot, heta pakazywaje, što biełaruskaja moładź stanowicca takoj, jakoj pawinna być, h. zn. pačynaje ŭžo bačyć, što jość šawinistyčnyja typy, katoryja tolki tady pierakonwajucca ab[i]snawańni biełaruskaha narodu, kali pačujuć heta na swaich biełarusajednych zubach. Što takaja moładź narastaje — treba tolki ciešycca. Jana wystaŭlaje sabie świadoctwa, što patrapić pierakanać ab isnawańni biełarusaŭ nawat takich typaŭ, jak razjušany endecki prałat i roznyja ksiandzy Barodzičy,

Što pry hetym časami moža być padarwany aŭtarytet relihii — nas mała abchodzić, bo nia my pastaŭleny baranić jaje, ale jak raz heta należyć da tych, jakija swaim zachawańniem prafanujuć toje, što prapawiedujuć.

---

## ПІСЬМО З ПРАВІНЦЫІ

Рэдакцыя з прычыны нястачы мейсца наогул карэспондэнтам у газэце не адказывае. Для ніжэй зьмешчанага пісьма робім вынятак, дзеля ягонага агульна-грамадзкага зьместу.

„Паважаная рэдакцыя! Паведамляем Вам аб нашай школе ў роднай мове. 12 ліпня с. г. прыехаў у нашу вёску войт і заявіў нам, каб сяляне далі лепшы будынак на школу, большы і сьвятлейшы.

Мы сказалі, што гэткага будынку ня маем. Толькі таго і было. Прайшло некалькі часу, было ціха. Аж но 18 жніўня прыехаў у нашу вёску „солтыс грамадзкі“ з фурманкай і бяз нікога забраў школьную вывеску, лаўкі, дошку і ўсё, што было. Пасьля гэтага мы даведаліся, што ў нашай вёсцы школы ня будзе, таму што войт згадзіў хату ў Слабадзе, такую хату, што і ў нашай вёсцы можна знайсьці, нават і лепшую. У Слабадзе ёсьць школа свая, казённая, дык цяпер там будзе дзьве школы, а ў Малажанях ня будзе.

У Малажанскую школу хадзілі дзеці Кляпіцкія і з Жураўлёва. Кляпіцкім у школу было ½ кілёмэтра, а ў Слабаду будзе 3½. Жураўлёўскім да нас было 1 кілёмэтр, а ў Слабаду будзе 3. У нашай Малажанскай школе ад 1927 году вучылі пабеларуску і папольску, а ў Слабадзе будзе чыста польская школа.

Была-б у нас школа і надалей, але ўся прычына з нашага вучыцеля Валерага Кавальчука, каторага нам прыслалі сёлета. Ён як толькі прыехаў, то сабраў усіх бацькоў і зачаў угаварываць, каб балей рабіць лекцыяў польскіх, а беларускіх меней, бо, кажа, беларускі язык нідзе не патрэбны. А як будуць вучыцца дзеці вашыя папольску, то ім будзе добра служыць у войску. Але на гэта мы не згадзіліся. Тады наш вучыцель далей шукаў выхаду, каб закрыць нашую школу. Ну і закрыў.

Мы сяляне трох вёсак просім Вас, каб як небудзь нам памаглі, парадзілі і не пакінулі нашай просьбы. Напішыце ў газэце, што нам рабіць.

Просім Вас разышчыце дзе Т. Б. Ш.

Ад імя сялян вёскі Малажані, Кляпіцы і Жураўлёва

(некалькі подпісаў).

Ад рэдакцыі.

Браты сяляне! Моцна мы пераняты вашай крыўдай. Яна ня ёсьць зьявішчам абасобленым. Гэта адно з шматлікіх і сыстэматычных праяваў ліквідацыі нашага школьніцтва.

Адно вам можам парадзіць — трымайцеся цьвёрда, змагайцеся за свае правы.

Калі вашую школу перанесьлі да Слабады толькі дзеля таго, што ў ёй вучылі і пабеларуску, дык зрабілі няпраўна.

Будзьце стойкімі і дамагайцеся, каб вашых дзяцей вучылі пабеларуску і ў Слабодзкай школе, бо няма прычыны ня вучыць пабеларуску ў школе толькі дзеля таго, што яна перанесена з аднэй вёскі ў другую. Школа ў Слабадзе павінна быць такая самая, якая была ў Малажанях. Аднак, калі-б усе тры вёскі выступалі салідарна і станоўча — думаем, што ўдалося-б утрымаць школу ў Малажанях.

Датычна „разысканьня“ Т. Б. Ш., дык ягоны Урад ёсьць у Вільні, але знаходзіцца на бездарожжы і бяздзейны.

Справа ў тым, што ў Т. Б. Ш. на правінцыі ў некаторых мясцох набралася даволі камунізуючага элемэнту, які пачаў рабіць нацiск на тэбэшоўскі Урад, каб ён ішоў на паяску камуністаў. Урад на гэта не пайшоў. Тады камуністы пачалі на сяброў Ураду несваім камсамольскім стылям вялікую зьвягу, выяўляную як у нелегальных брашурах і

ўлётках КПЗБ так і ў бліскім гэтай партыі афіцыяльным органе „Асве“.

Урад Т. Б. Ш. паміма, што вышэй успомненымі чыннікамі быў абразьліва абляны — маўчыць, як вады ў рот набраўшы і не праяўляе ніякай дзейнасьці. Тады, як нам здаецца, ён павінен быў выдаць у сваей абароне адозву, ачысьціць некаторыя гурткі ад камсамолу і разгарнуць прасьветную працу, стаўшы на беларускі нацыянальны і сацыяльны грунт.

Тое, што ён пасварыўшыся з камуністамі ня можа, ці ня хоча праяўляць дзейнасьці — шмат чаго наводзіць на думку. Як бы там ня было, маўчаньне Ўраду Т. Б. Ш. тады як ён быў праз камуністаў абразьліва аблаены — лічым не нармальным зьявішчам.

## Японія ідзе да нацыянальнага соцыялізму

Газэты падаюць, што Японскае міністэрства вайны выдала брашуру, у якой сам міністар Гаяшы выказвае пагляды аб патрэбе Японцам нацыянальнага соцыялізму.

Гэтая брашура рэзка крытыкуе цяперашні эканамічна-палітычны лад Японіі. Паміж іншым у брашуры гаворыцца:

„Капіталістычная сыстэма абагачвае нямногіх і прыводзіць да абяднення масаў, перадусім сялян і рыбакоў. Яна прадоўжывае раз'яднаньне і даводзіць да слабасьці. Дзеля гэтага трэба вярнуцца да эканамічнай маральнасьці, каторая павінна замяніць цяперашнюю палітычную эканомію, аснаваную на індывідуалістычных паглядах.“

Брашура нарабіла ў Японіі многа шуму і дала шмат страху ворагам нацыянальна-соцыялістычнай ідэолёгі, як з боку камуністычнай так і з боку правай рэакцыі.

Газэта „Іо-Міуры“ піша, што вайсковыя ўлады рашуча пастанавілі разпаўсюджваць пагляды, выражаныя ў брашуры, ня маючы намеру ані на крок адступіць ад сваіх імкненьняў.

Вытварылася такая сытуацыя, што Японская армія пачынае дыктаваць свайму ўраду ня толькі ў справах палітыкі замежнай, але робіць гэта і ў справе нутраногa ладу сваей дзяржавы.

Японскія газэты „Ніці-Ніці“ і „Цугай Іогіо“ зварачваюць увагу, што брашура міністэрства вайны мае аграмадны пасьпех. Паміма вялікага накладу, яна ўжо вычэрпываецца і міністэрства шыкуецца да новага выданьня.

Як бачым, народы, любячыя свой край, жадаючыя яму дабрабыту і магутнасьці — пачынаюць зыходзіць на шлях нацыянальнага соцыялізму.

**СПАЧУВАЮЧЫЯ НАЦЫЯНАЛ-СОЦЫЯЛІЗМУ ГУРТУЮЦЦА КАЛЯ НОВАГА ШЛЯХУ І АКУРАТНА АПЛАЧВАЮЦЬ ПАДПІСКУ!**

## Новая саматужная праца

У месяцы жніўні выйшаў №1 месячніка пчалярства і мядова-лякарскіх зёлак „Беларуская Борць“ пад рэдакцыяй К. Войцікавай. Газэта адбіта на павялячы і мае 8 старонак даволі вялікага фармату. Адрас рэдакцыі і адміністрацыі — Вільня, Каралеўская в. 3, 8.

Орган гэты наладжвае зносіны з вясковымі пчалярамі і зьбіральнікамі зёлак, памагае ім радай і арганізуе прадажу.

На цяперашні крызысовы час гэткая помач зусім адпавядае патрэбе.

Усё беларускае грамадзянства павінна падтрымаць гэтую саматужную працу, якая апрача арганізацыйнае карысьці дасьць магчымасьць пэўнага заработку беларускаму абяднеўшаму сялянству, зацікаўленаму ў працы распачатай ініцыятарамі.

Мы горача вітаем гэтае саматужнае пачынаньне і жадаем яму памыснага разьвіцьця.

## ЧАРТАПАЛОХАВЫЯ КВЕТКІ

У № 21 „Роднага Краю“ нейкі аўтар артыкулу „Грамадзкая і этычная якасьць“ надта нэрвуецца, што ня ёсьць здольным убачыць у нас ідэолёгіі. У другім мейсцы зноў пачынае бачыць і кажа, што яна паўстала „пры шклянцы гэрбаты“ і надта яму не падабаецца.

Што-ж мы можам парадзіць на ягоныя жалі? Ён сам сабе вінен, што „глядзіць у кнігу, а бачыць хвігу“.

Нармальныя, здаровыя чытачы „Новага Шляху“ ягоную ідэолёгію бачаць і разумеюць. Не разумее яе той, хто не ор'ентуецца ў сучаснасьці, або чыя галава скалечаная інтэрнацыянальным дурманам. У апошнім выпадку — няма лякарства: такі ягомасьць ня здольны зразумець шчырай беларускай нацыянальнай душы. Што да „шклянкі гэрбаты“, дык прыпомнім нашаму паважанаму праціўніку, што большасьць ідэяў якраз паўстае ў зацішшы габінэтаў, ці як кажа ён, „пры шклянцы гэрбаты“. Разумеецца, вынятак становіць „ідэя“ „Роднага Краю“, якая, як усім вядома, паўстала ў пачакальні „ужэнду воевудзкего“ і ёсьць нішто іншае, як звычайнае „паньствовэ дожывяне“ слабавітых старэйшых дзяцей.

Эх, паважаны наш праціўнік! Ляпей-бы вы заняліся тым, чым заняўся ваш рэдактар Ніколай Грігоріевіч — гандлям сьвіньмі. І грошы мелі-бы і беларускай справе ня шкодзілі-б. Гляньце вось ён то, Ніколай Грігоріевіч, ваш рэдактар: у яго і кішэня поўная і „паньствовэго дожывяня“ ўжо не патрабуе.

**Супроць капіталізму — свой соцыялізм. Супроць чужога нацыяналізму — свой нацыяналізм.**

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія
Drukarnia W. Znamierowskiego, Wilno

